Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

17 - 23 ЛІПЕНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ
№29 (169)

## АДНА ЗЯМЛЯ

ВІЛЕЙКА

### Адкрыты лік

Першая ВІЧ–"ластаўка" заляцела ў рэгіён. У Беларускім цэнтры прафілактыкі СНІДу гэты інфіцыраваны не зарэгістраваны. Аднак галоўны ўрач ЦГіЭ **Міхаіл Міхалевіч** факт пацвердзіў. Ён сказаў, што інфіцыраваны лічыцца за іншым раёнам – там, дзе прапісаны.

*Аддзел інфармацыі.*

ВАЛОЖЫН

### Чэшскія карты

Тыражом у 9 тысяч экземпляраў аддрукаваны ў Чэхіі раскладны буклет, прысвечаны Валожыншчыне.

Там ёсць дакладная карта горада і раёна, Мінскай вобласці, рэкламныя фотаздымкі 15 прадпрыемстваў, гаспадарак, акцыянерных таварыстваў, якія і выступілі спонсарамі выдання.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

ВІЛЕЙКА

### Ці вырасце "Нікіта"

"Нікіта" – гэта не хлопчык, гэта элітны гатунак бульбы, які сёлета закупіў і пасадзіў з мэтай размнажвання мясцовы сортучастак, што месціцца ў вёсцы **Порса.**

"Нікіта", нягледзячы на дрэннае надвор'е, паказвае добрыя тэмпы росту. Таму яго і крадуць у першую чаргу. На сортучастку ўсур'ёз занепакоеныя, ці дарасце "Нікіта" да сваёй насеннай спеласці.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

МАЛАДЗЕЧНА

### Прыпынкі

Яшчэ два аўтобусныя прыпынкі будуць па–новым аформленыя – насупраць магазіна "Дзіцячы свет" і ля дзіцячай паліклінікі (па Віленскай). Там павінны хутка распачацца будаўнічыя работы.

На Старым Месце аўтобусны прыпынак будзе перанесены (пабудаваны новы). Стары знясуць.

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

### Газета на музыку Японii

Журналісты мясцовай газеты "Шлях перамогі" атрымалі II прэмію за серыю публікацый пра міліцыю. Іх узнагародзілі японскай стэрэамагнітолай. Конкурс, прысвечаны 60–годдзю беларускай міліцыі, праводзяць Упраўленне ўнутраных спраў Мінаблвыканкома і Саюз журналістаў.

*Аддзел інфармацыі.*

ВАЛОЖЫН

### Стажыроўка

У германскі горад Браунфельс на стажыроўку паехалі акушэр–гінеколаг райбальніцы **Лілія Гасціловіч** і загадчык неўралагічнага аддзялення райбальніцы **Мечаслаў Шота.** Акрамя таго, актывісты тамашняй арганізацыі "Жыццё пасля Чарнобыля" штогод возяць да сябе на аздараўленне дзяцей Валожыншчыны.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Дажджы, дажджы... Наперадзе таксама

АШМЯНЫ. Звычайна, калі нас даймае спякота ці, як сёлета, дажджы, то надвор'е на наступныя дні даведацца хоча кожны. Ашмянцам, напэўна, у гэтым сэнсе пашчасціла, як нікому іншаму ў рэгіёне. Кожны з іх можа ў любы час сутак патэлефанаваць і даведацца пра надвор'е.

У штаце метэастанцыі працуюць шэсць чалавек. Начальнік **Георгій Рахоцкі** – самы галоўны "прагназіст".

– Асноўнае – гэта назіранні за надвор'ем, – гаворыць ён. – Робім гэта круглыя суткі. На самой метэастанцыі ўстаноўлены неабходныя прыборы. Праз кожныя тры гадзіны ўсе сабраныя дадзеныя перадаем у гідраметцэнтр у Мінск. У выпадку набліжэння да нас штормаў, бураў абавязкова паведамляем у райвыканком, інфармуем упраўленне сельскай гаспадаркі, калгасы і насельніцтва.

Што тычыцца сёлетніх дажджоў, то ўбачыць сонейка ў бліжэйшыя дні не ўдасца. Наперадзе зноў апакі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

*КАМАНДЗІРОЎКА НАШАГА КАРЭСПАНДЭНТА*

## Жэмчугу на дне не было. Толькі смецце і тапельцы

**ВІЛЕЙКА.** Выратавальную станцыю часцей называюць яшчэ вадалазнай. І маюць рацыю, бо з 11 штатных работнікаў пяцёра – менавіта вадалазы. За два тыдні сонечнага надвор'я ўжо ўзнята 14 тапельцаў, тры дзесяткі выратавалі падчас купання. Станцыя ахоўвае жыццё людзей, папярэджвае няшчасныя выпадкі на вадзе і ліквідуе іх наступствы. За леташні год станцыя стала лепшай у вобласці. Начальнік выратавальнай станцыі **Аляксандр Роўда** дагэтуль 8 год адпрацаваў вадалазам:

– Песня Уладзіміра Высоцкага "Если друг оказался вдруг..." і пра нас таксама. Заўсёды працуем у звязцы. Дзяжурная змена – два вадалазы і матарыст. Летам–зімой, днём–ноччу едзем па рэгіёне ратаваць ці шукаць. Робім гэта бясплатна. Нас можа выклікаць і прыватная асоба. Аднак заўсёды пра здарэнні паведамляем міліцыі. Калі ёсць патрэба, на машыну грузім кацер "Амур" ці маторную лодку "Ака". Рыштунак падрыхтаваны заўсёды.



*Усё нармальна, пагружаюся!*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

***– Дзе найбольш небяспечныя месцы?***

– У Маладзечанскі раён часцяком выязджаем на возера ля Насілава, на кар'еры ў Мароські. У нас жа ля вёскі Сосенка летась патанулі пяцёра. Сёлета ўжо двое.

***– Пра работу вадалазаў ведаю з дакументальных, мастацкіх фільмаў. Сапраўды, крочыце пацiху па дне, высвечваючы шлях ліхтаром?***

– У нашых вадаёмах самая лепшая бачнасць – 30 сантыметраў. Летам нацягваем касцюмы мокрага тыпу – яны прапускаюць ваду, але захоўваюць тэмпературу цела.

*Заканчэнне на 3-й стар.*

*МАЙСТЭРСТВА*

## Люблю здымаць усё прыгожае



*З серыі «Прыгожае»* ФОТА ЯЎГЕНА СТЭЛЬМАХА.

***МАЛАДЗЕЧНА. Калі Жэню споўнілася 10, у падарунак на дзень нараджэння ён атрымаў фотаапарат з дадатковым матэрыялам для фотаздымкаў. Гэта змяняе яго жыццё. Школьныя гады праходзяць у фотагуртках, дзе доўгі час не мог затрымлівацца на адным месцы, бо адчуваў неабходнасць займацца самастойна з дапамогай кніг і практыкі. Працаваў на «Спадарожніку» слесарам, хаця і тады больш фатаграфаў. Цяпер Яўген СТЭЛЬМАХ працуе фотамайстрам у Цэнтры пазашкольнай работы.***

*- Як бавяць час дзеці ў фотастудыі?*

- Перш за ўсё, вучацца фатаграфаваць, разбірацца ў таямніцах чорна-белай і каляровай плёнкі, вучацца паважліва ставіцца да вынікаў сваёй працы, таму што фотаздымак - гэта цярплівасць, руплівасць і акуратнасць.

*- Якімі якасцямі, на ваш погляд, абавязаны валодаць фатограф?*

- Мяркую, густам і жаданнем набываць веды.

*Заканчэнне на 2-й стар.*

*ВЫТВОРЧАСЦЬ*

## – У ЗАСа ёсць заўтра, –

### упэўнены дырэктар Аляксандр Радзевіч

***СМАРГОНЬ. Летась мясцоваму заводу аптычнага станкабудавання споўнілася 25. У часы Савецкага Саюза ён прызначаўся для вытворчасці тэхналагічнага абсталявання для "абаронкі". Выраблялі тут станкі і вакуумныя ўстаноўкі. На вытворчасці былі задзейнічаныя не толькі рабочыя і інжынеры завода, але і каля 10 навуковых інстытутаў з Мінска, Харкава, Санкт–Пецярбурга. Прадукцыі выпускалася 100 найменняў з двайным прымяненнем. Гэта азначала, што той ці іншы прыбор мог быць устаноўлены як на ваеннай тэхніцы, так і на звычайным трактары, да прыкладу.***

На самім заводзе было створана канструктарскае бюро, дзе займаліся распрацоўкай тавараў і абсталявання 300 канструктараў. Усяго тады на заводзе працавала чатыры з паловай тысячы чалавек. Але прыйшоў час канверсіі. Рынак збыту быў страчаны практычна поўнасцю, і завод пачаў развівацца ў адваротным накірунку. Змяніліся чатыры генеральныя дырэктары. З пятым, **Аляксандрам РАДЗЕВІЧАМ**, пра перспектывы гутарыць карэспандэнт "РГ".

***– Аляксандр Міхайлавіч, які ён, дзень сённяшні, на заводзе аптычнага станкабудавання?***

– Не вельмі радасны. За апошнія гады значна скарацілася колькасць рабочых, таму цяпер завод чакае этап адраджэння. Для гэтага выпрацоўваем новыя доследныя віды прадукцыі, "загружаем" заказамі канструктараў. У перспектыве стварэнне складанай тэхнікі, якую запатрабуюць у рэспубліцы і за яе межамі.

***– Пры назначэнні, натуральна, перад вамі былі пастаўленыя пэўныя задачы?***

– Задача адна – рэанімацыя завода. Сэнс яе ў тым, каб запусціць усе магчымыя магутнасці завода, якія на сёння яшчэ не запатрабаваныя. Адсюль павялічыцца і зарплата, з'явяцца і магчымасці па стварэнні новых рабочых месцаў.

*Заканчэнне на 2-й стар.*

СТАРЫ АЛЬБОМ



# Праз два гады пасля вайны. Крывічы

Гэты фотаздымак выпадкова трапіў мне на вочы, калі глядзела ўжо даволі стары і крыху патрапаны за сваё доўгае жыццё альбом **Вацлава Касцевіча**. Мне вельмі цікава было пагледзець на цяперашніх бабулек і дзядулек у юнацтве, цікава было даведацца пра тое, як яны жылі, вучыліся. І вось аб чым я даведалася.

Крывіцкая школа закрывала свае дзверы падчас вайны 1941–45 гадоў толькі зрэдку. Нягледзячы на гэта, вайна ўсё ж перашкодзіла некаторым вучням атрымліваць адукацыю. Таму 5 клас 1947 года ўвабраў у сябе і 10–гадовых хлопчыкаў і 15–гадовых дзяўчат.

Настаўнікаў не хапала. У іх ролі выступалі падчас іншыя людзі. Веды, якія яны давалі, былі даволі трывалыя. Не хапала і падручнікаў, а пісаць... Шчаслівы быў той вучань, які выводзіў свае літары на газеце. Астатнія ж пісалі хто на чым, нават на старых мяхах. Навучанне вялося на беларускай мове, акрамя яе вывучалася і нямецкая. Святымі для кожнага кабінета былі наступныя прадметы: печка, дошка і крэйда, настаўніцкія стол і табурэтка, парты для вучняў, прычым колькасць вучняў у класе часам перавальвала за тры дзесяткі. У Крывіцкай дзесяцігадовай школе вучыліся дзеці не толькі з Крывічоў, але і з вёсак, якія знаходзіліся за 10 кіламетраў.

Летам вучні пешшу кожны дзень хадзілі ў школу, а зімой яны жылі на кватэры.

– Мой бацька раз у месяц завозіў гаспадыні кватэры дровы і бульбу, за што гаспадыня варыла нам, тым, хто ў яе жыў, булён і калі–нікалі давала скварку. Для жыцця гаспадарамі выдзяляўся адзін на дваіх ложак, – успамінае Вацлаў Касцевіч.

Так, жыць было цяжка. Пра гэта сведчыць і сам фотаздымак – чорнае бярвенне школьных сцен, якое крыху патрэскалася, але захавалася да нашых дзён; толькі 21 вучань на фотаздымку з 30–ці. Астатнім не было чаго апрануць. У той дзень, калі здымаліся хлопцы і дзяўчаты, а адбывалася гэта 9.04.47 г., было вельмі халодна, таму вучні папрыходзілі ў шапках–вушанках і паліто. Тады ў сем'ях было па трое–чацвёра дзяцей, грошай не хапала. Адзенне для ўсіх накупляць было немагчыма. Таму многія прыходзілі ў школу ў кажухах. Менавіта яго частка бачная з правага боку фотаздымка.

Вось такі ён быў, 5 клас Крывіцкай школы 1947 года. 5 клас праз два гады пасля вайны.

*Таццяна МІР, вучаніца 11 класа СШ №9 Маладзечна.*

ФОТА З АЛЬБОМА ВАЦЛАВА КАСЦЕВІЧА.

КУЛЬТУРА

## Сталічныя лаўрэаты

ВІЛЕЙКА. Лаўрэатамі вярнуліся з заключнага канцэрта рэспубліканскага фестывалю "Беларусь – мая песня" (праходзіў 3–5 ліпеня ў Мінску) выканаўца песень **Валерый Скаражонак** і духавы аркестр школы мастацтваў пад кіраўніцтвам **Фёдара Гура.**

Сёння ў тэатр песні "Землякі" завітаў кампазітар, выканаўца, музыкант, лаўрэат Усерасійскага конкурсу эстраднай песні "7 нот да п'едэстала" **Юрый Фураеў.**

## Купалле адкладваецца

АШМЯНЫ. Двойчы даводзілася пераносіць правядзенне раённага свята з прычыны занадта кепскага дажджлівага надвор'я. Няўжо і на трэці раз (17 ліпеня) не давядзецца сустрэцца яго ўдзельнікам з Купалінкай, Русалкамі, ляснымі феямі, пашукаць "кветачку шчасця", а моладзі да самага світанку патанчыць пад лепшыя ансамблі раёна?

Атрымаўшы І–е месца на абласным аглядзе, калектыў мастацкай самадзейнасці пажарнай часці (кіраўнік **Алена Калыбіна**) рыхтуецца цяпер да заключнага канцэрта фестывалю "Беларусь – мая песня", што мае адбыцца 24 ліпеня ў Гродне.

МАЛАДЗЕЧНА. У Ракуцёўшчыне 26 ліпеня адбудзецца раённае свята, прысвечанае Максіму Багдановічу.

ВІЛЕЙКА. Рэтра–фестываль, які плануецца правесці 25 ліпеня, запросіць гледачоў сустрэцца са шлягерамі 50–60 гадоў, стацьназіральнікамі захапляльнага шоў "Міс Вілейка–98".

*Тэрэса ВАСІЛЬЕВА.*

## Пра безназоўнае

ВАЛОЖЫН. Больш за год хадзіў у безназоўных гурт народнай музыкі і песні раённага Дома культуры. Калектыў спрабаваў называць сябе то "Валожынскімі музыкамі", то "Прымакамі".

Усё вырашылася, калі ў калектыў прыйшлі дзяўчаты – флейтыстка і цымбалістка. Назва **"Сваякі"** прыйшлася ў акурат. Пад ёй самадзейныя артысты з поспехам выступілі нядаўна ў Мінску.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

СУМЕЖЖА

## Міндоўга каранавалі

СМАРГОНЬ–КРЭВА. У Крэўскім замку адбылося свята – каранацыя Міндоўга.

На ўрачыстасць з'ехаліся літоўцы з Гродна, Гервятаў, Мінска. Самадзейныя артысты з Літвы запалі ў сэрцы прысутных выкананнем плачэўных песняў. Сярод ночы, а свята пачалося а 9–й гадзіне вечара, на развалінах Крэўскага замка на кані з'явіўся кароль Міндоўг, а затым адбылася каранацыя, як і шмат гадоў таму. Акрамя гэтага, быў паказаны відэафільм пра жыццё адной з абшчын і пра адкрыццё літоўскай школы ў Рымдзюнах, што на Астравеччыне. Свята завяршылася на раніцу наступнага дня.

*Аддзел інфармацыі.*

ФОТА ВАЛЯНЦІНЫ ВЕШТАРТ. IREX/ProMedia

## Лялькі з Германіі

ВАЛОЖЫН. У райбальніцу прыйшла незвычайная гуманітарная дапамога з Германіі – перасоўная заслона і камплект лялек для лялечнага гуртка.

Усё перададзена ў дзіцячую бібліятэку клубу па інтарэсах "Кругагляд", які ўжо некалькі год ставіць лялечныя спектаклі. Маленькія артысты заўсёды жаданыя госці ў дзіцячым аддзяленні райбальніцы.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Шэфы–японцы

ВАЛОЖЫН. У СШ №1 дастаўленая стаматалагічная ўстаноўка "Хірадэнт 695" чэшскай вытворчасці.

Набылі яе японска–беларускі фонд "Мост надзеі", шэфы з Савецкага раёна сталіцы і Валожынскі райвыканкам.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МАЙСТЭРСТВА

# ... усё прыгожае

*Пачатак на 1-й стар.*

- Хто з вашых вучняў набліжаецца да гэтага?

- У перспектыве - **Віталь Пазнякоў**.

- Ваша любімая творчая тэма?

- Мне падабаецца адлюстроўваць у фотаздымку краявіды, прыроду, людзей. Для мяне творчасць - гэта прыгажосць, якую трэба заўважыць і данесці да іншых людзей.

- Калі сустракаеце на вуліцы прывабную дзяўчыну, юнака, прапануеце ім зняцца?

- Цяжка наладжваць стасункі на вуліцы. Я аддаю перавагу людзям, якіх добра ведаю, таму што ўяўляю, якімі яны атрымаюцца на фотаздымку. Першае ўражанне можа быць падманлівым, і працаваць далей будзе цяжка і нецікава.

- Што не выклікае ў вас жадання здымаць?

- Мне не падабаецца працаваць над мерапрыемствамі, якія носяць адбітак якой-небудзь казёншчыны: суботнікі, мітынгі, дошкі гонару.

- Супрацоўнічаеце з часопісамі?

- Да апошняга часу не было такіх часопісаў, якія б змяшчалі здымкі і пры гэтым мелі добрую паліграфічную базу. Толькі цяпер з'явіліся, прынамсі, два маскоўскія часопісы - «Фотомагазин» і «Фотовидео», але ўзнікае іншая праблема. Работу, што пасылаю, не вяртаюць, атрымліваецца - спецыяльная здымка. Таму ўвосень планую зрабіць сваю выстаўку, якую ўбачаць, перш за ўсё, маладзечанцы. Мяркуецца, што там будзе каля 30 здымкаў - пераважна, партрэтныя і пейзажныя.



*Аўтапартрэт.*

*Гутарыла АЛЯКСАНДРА.*

ФОТА ЯЎГЕНА СТЭЛЬМАХА.

## За грошы і па картках

АШМЯНЫ. Мясцовую асацыяцыю "Аграсакрат" ведаюць многія аўтааматары, бо не адзін раз з яе дапамогай запраўлялі свае аўто. Гандаль нафтапрадуктамі – адзін з асноўных відаў яе дзейнасці. Праўда, апошнім часам ён спынены.

Прычынай стала будаўніцтва на 127 кіламетры трасы Мінск–Вільня аўтазаправачнай станцыі падрадным спосабам. Вядзецца яно ўжо другі год і сёлета будзе завершана. Акрамя запраўкі тут будуць кавярня і крама аўтазапчастак. А запраўляць аўтамабілі можна як за рублі, так і па 9 відах банкаўскіх картак.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВЫТВОРЧАСЦЬ

# У ЗАСа ёсць заўтра

*Пачатак на 1-й стар.*

***– І як вы бачыце на практыцы гэтую рэанімацыю?***

– Думаю пачаць падобнае са стварэння гасразліковых падраздзяленняў, якія будуць выпускаць прадукцыю пад заказ. Што ў канчатковым выніку дасць магчымасць падтрымліваць тыя вытворчасці, якія не акупляюць сябе сёння. Але гэта не значыць, што яны не будуць запатрабаваныя заўтра.

Такіх падраздзяленняў будзе шэсць. Першае – цэх гальванікі – працуе ўжо. Мае заказы з Ашмянскага завода "Радыётэхніка", Астравецкага ТАА "Верас". Патрэбу ў яго паслугах будуць мець многія прадпрыемствы ў рэгіёне. Пры стварэнні гэтых падраздзяленняў кіруюся і планую супрацоўніцтва з рэгіянальнымі арганізацыямі і фірмамі. Так зручней і нам, і ім.

***– Акрамя як у рэгіёне ці маеце кліентаў яшчэ дзе–небудзь?***

– Ёсць кантракты на пастаўку вакуумных установак у Кітай і Тайвань. У гэтых краінах вельмі зацікаўленыя ў іх набыцці, бо падобных аналагаў па якасці нідзе не вырабляецца. Адзінае, што ў гэтых установках дызайн не на ўзроўні.

***– На ваш погляд, ці ёсць у завода аптычнага станкабудавання заўтра? Калі так, то чым вы гэта пацвердзілі б?***

– Думаю, ёсць. Падстаў так лічыць таксама хапае. Сёння, акрамя пералічанай прадукцыі, мы выпускаем 50 найменняў тавараў народнага спажывання. На заводзе, нягледзячы на скарачэнні за апошнія гады, застаўся каласальны патэнцыял інжынерна–тэхнічнай службы, канструктараў. На іх і робяцца стаўкі.

*Гутарыў Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Чарніцы сёння, а рамонт...

СМАРГОНЬ. Апошнія дні на Сольскім заводзе для сушкі агародніны пачалі прымаць чарніцы. Зборшчыкі ягад ажывіліся, бо закупачных цэнаў у 30 тысяч рублёў не прапануе ніхто.

Намеснік дырэктара **Юрый Акчурын** гаворыць, што ягады закупляюцца для далейшай перапрацоўкі на месцы.

Праўда, мяркуецца, што гэты тыдзень апошні, калі будуць прымацца ягады. На заводзе настаў час рамонтаў. Уласнымі сіламі тут будзе рамантавацца абсталяванне, кацельня і вытворчыя памяшканні.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ДАТЫ

## Баяры і парабкі

15 ліпеня 1410 года адбылася бітва паміж аб'яднанымі арміямі Польскага каралеўства і ВКЛ з аднаго боку і прафесійным войскам Тэўтонскага ордэна.

У перамозе над нямецкімі рыцарамі бралі ўдзел нашы далёкія продкі – воіны з Крэва, Ашмянаў, а таксама заслаўскі князь Юрый Міхайлавіч, які ўзначальваў харугву менскіх і заслаўскіх баяраў і іх парабкаў.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

## Кожныя 55год– тэлевізар

МАЛАДЗЕЧНА. Споўнілася 55 год падраздзяленню ўрадавай сувязі, што знаходзіцца на тэрыторыі горада. Гарвыканком падарыў вайскоўцам каляровы тэлевізар "Віцязь".

Падчас вайны падраздзяленне прайшло шлях ад Арла да Кенігсберга. За час існавання больш за тысячу афіцэраў, сяржантаў, салдат узнагароджаныя баявымі ўзнагародамі. 40 афіцэраў ваявалі ў Афганістане.

*Аддзел інфармацыі.*

## Вайна папер

МАЛАДЗЕЧНА. Жыхары пяціпавярхоўкі па вуліцы Талстога, 8 (ЖБК №7) хутка год, як змагаюцца за справядлівасць.

Ля дома праклалі газаправод, пры гэтым парушылі асфальтавае пакрыццё. А паколькі дом кааператыўны, адназначна ўсё жыхарам прыйдзецца за свае грошы. Газавікі пакуль цвёрда стаяць на сваім: на такія работы сродкі не запланаваныя.

*Аддзел інфармацыі.*

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-28.*

## Мармоны

Пра іх у многіх беларусаў паняцце, чамусьці, спрошчанае – як пра шматжэнцаў. Гісторыя жыцця мармонаў шмат у чым нагадвае жыццё нашых продкаў і нас саміх.

У XIX стагоддзі на ўсходнім беразе Місісіпі вырас горад з вялікім храмам. Неўзабаве з–за ганенняў мармоны вымушаныя былі пакінуць горад, які самі заснавалі. Зімой, у павозках, яны па лёдзе перапраўліліся праз рэчку і пайшлі на захад. На шляху заснаўвалі новыя паселішчы, каб мець харчаванне. Мелі цяжкасці, шмат людзей загінула. Армія ЗША нават добраахвотнікаў на дапамогу высылала.

Жылі вельмі кепска, тым не менш дзякавалі богу і за тое, што наогул існуюць. У песні, што была своеасаблівым гімнам гэтых адвечных скітальцаў–перасяленцаў, рэфрэнам праходзіць: "Усё добра, усё і будзе добра".

У Беларусі таксама чуваць пастаянна пра тое, што "вайны няма". Астатняе, маўляў, перажывем. Мармонам у свой час такая вера дапамагла выстаяць, выжыць. Але мы знаходзімся не ў XIX стагоддзі, хаця ў вёсках і цяпер многія жывуць у хатках, з якіх мармоны даўно вылезлі. Тагачасны іх побыт толькі ў музеі можна пабачыць; створаны спецыяльны Mormon Trail Center



(амерыканцы менавіта так пішуць апошнія слова).

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

АДДЗЕЛ СТАТЫСТЫКІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Хто колькі зарабіў

***Сярэднямесячная зарплата рабочых і служачых па Маладзечну за I паўгоддзе склала 3,388 млн.р.***

Па асобных галінах народнай гаспадаркі сярэдняя зарплата была:

банкі – 6,055 млн.р.
бытавое абслугоўванне – 4,963 млн.р.
будаўнічыя арганізацыі – 4,565 млн.р.
сувязь – 3,589 млн.р.
жылкамунгас – 3,399 млн.р.
прамысловыя прадпрыемствы – 3,528 млн.р.
транспарт – 2,860 млн.р.
навука – 2,245 млн.р.
турызм – 2,229 млн.р.
грамадскае харчаванне – 2,244 млн.р.
ахова здароўя – 2,674 млн.р.
гандаль – 2,261 млн.р.
сацзабеспячэнне – 1,671 млн.р.
фізкультура і спорт – 2,164 млн.р.
культура – 2,556 млн.р.
мастацтва – 2,124 млн.р.
адукацыя – 2,723 млн.р.

Запазычанасць па выплаце зарплаты ў студзені–чэрвені была на радыёзаводзе "Спадарожнік", ААТ швейнай фірме "Юнона", тэхнагандлёвым цэнтры "Гарант", ЗПМ.

*Аддзел інфармацыі.*

КАМАНДЗІРОЎКА НАШАГА КАРЭСПАНДЭНТА

# Жэмчугу на дне не было



Аляксандр Роўда і Анатоль Пыск - нехта заплыў за буйкі.

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

Вадалаз першага класа Анатоль Гарыд 15 год працуе на станцыі

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

*Пачатак на 1-й стар.*

Акваланг важыць 23 кг. На пояс падвешваем дзесяцікілаграмовы рэмень. І поўзаем па дне. Калі хадзіць, "аб'ект" можна і не знайсці. Бывае, твар у твар з ім сутыкаемся.

***– Першы тапелец, быццам на вайне першая ахвяра? Усе нармальна праз гэта праходзяць?***

– У рэспубліцы няма ўстаноў, якія цэнтралізавана вучаць на вадалаза. Мы бярэм да сябе хлопца, вучым. А ён не вытрымлівае. Узняў першага тапельца і звальняецца. Адна справа намацаць цела ў вадзе. Іншая – выцягнуць і паглядзець у вочы родным. Асабіста я дастаў 10 чалавек. Тым не менш, заўсёды жудасна.

***– На якой максімальнай глыбіні працавалі?***

– Апускаліся на 15 метраў у Вілейскае вадасховішча. Чым большая глыбіня, тым большы расход паветра. Звычайна на 3 метрах працуем да гадзіны.

***– На дне трапляецца ў рукі нешта незвычайнае?***

– Гадоў з 10 таму на Салдацкім возеры знайшлі вінтоўкі часоў Другой Сусветнай вайны. Нядаўна гэтае возера чысцілі і, акрамя смецця, павыцягвалі бетонныя слупы. Па сёння невядома, як яны там апынуліся. У нас на дне жэмчуг не ляжыць. Толькі смецце і тапельцы. Мясцовую лахнескую пачвару не знайшлі.

***– Колькі часу чалавек можа знаходзіцца пад вадой і, тым не менш, выжыць?***

– Хвілін пяць. Хаця вядомыя выпадкі, калі прыводзілі ў прытомнасць і праз 30 хвілін. Зімой сітуацыя іншая. Самы трэніраваны спартсмен у вадзе можа пратрымацца не больш за 15 хвілін. Арганізм пераахалоджваецца і – смерць.

***– "Спецвопратка" вадалаза, па сусветных стандартах, даўно спісаная?***

– Акваланг АВМ–1М распрацаваныя яшчэ ў 1912 годзе. Тым не менш, лічым іх самымі надзейнымі. Бо наша жыццё залежыць ад таго, што мы выкарыстоўваем, як падрыхтаваныя самі і які ўважлівы, надзейны памочнік. Адзін вадалаз у вадзе, другі страхуе на беразе альбо на кацеры. У нас свая "азбука Морзе" – колькі разоў і як тузанеш за вяроўку. Калі са дна тры разы за яе пацягнеш – "уздымай мяне". Калі адразу больш за чатыры – "не магу выйсці", патрэбная дапамога. Тады ўсё залежыць, як хутка памочнік спусціцца да мяне. Пастаянна напагатове запасны рыштунак.

***– Заўсёды знаходзіце тое, па што «ідзяце на дно»?***

– Зрэдку, але бываюць выпадкі, што не знаходзім. Гадоў з 6 таму ў Заскавічах, што на Маладзечаншчыне, пад лёд праваліліся адразу двое дзяцей з адной сям'і. Толькі на трэці дзень знайшлі хлопчыка. А дзяўчынку шукалі (перыядычна) паўгода. Безвынікова.

***– Як зарабляе вадалаз?***

– Аклад 2,5 мільёна рублёў. Дзяжурства праз дзень па 12 гадзін. Бывае, працуем без выхадных. Вы скардзіцеся, што надвор'е халоднае. А для нас яно самае спрыяльнае: у ваду людзі не палезуць – адпаведна ахвяраў не будзе.

***– Такая сітуацыя: ваш выратавальны кацер стаіць ля зоны адпачынку на вадасховішчы. Дзесьці за кіламетр тоне чалавек. Паедзеце ратаваць?***

– Паедзем і за 10 км. Афіцыйна мы абавязаныя выратаваць у радыусе 415 м. Далей – юрыдычную адказнасць не нясем. Бывае, ляціш на кацеры кіламетры, спадзяешся на цуд, знервуешся ўвесь. Адсюль і нашы прафесійныя хваробы.

*Васіль САВІЦКІ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 8.07 | 15.07 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | - | **92** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | - | **350** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 104 | **98,2** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 50,6 | **48** |
| Рыс | 1 кг | 32 | **32,5** |
| Цукар | 1 кг | 28,5 | **28,3** |
| Грэчка | 1 кг | 35 | **35** |
| Алей | 1 л | 72 | **66** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 26,3 | **26,3** |
| Маянэз | 250 г | 20 | **24** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 75 | **75** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 26 | **26** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 32,2 | **30** |
| Лімоны | 1кг | 55 | **64** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 30 | **40** |
| Масла | 1 кг | 90 | **100** |
| Тварог | 1 кг | 30 | **25** |
| Малако | 1 л | 8 | **10** |
| Бульба свежая | 1 кг | 30 | **20** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 32 | **32** |

## Паспела ягадка

***На любы густ прапануе рынак у Маладзечне ягады, сабраныя ў рэгіёне і за яго межамі, іншыя дары лета.***

Чарніцы, 5 л ............ 120 т.р.
Парэчкі, 5 л ............ 35 т.р.
Парэчкі чорн., 5л .... 120 т.р.
Вішні, 5 л ............ 150 т.р.
Маліны, 5 л ............ 130 т.р.
Лісічкі, 0,5 л ............ 20 т.р.
Цыбуля зял., 1 пучок .. 5 т.р.
Агуркі, 1 кг ............ 23 т.р.
Капуста, 1 кг ............ 22 т.р.
Памідоры, 1 кг ............ 62 т.р.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

## А потым класці асфальт

***ВІЛЕЙКА. Многіх гараджан хвалюе, што будзе са стыхійнымі рынкамі: «Хітрушцы» каля Дома культуры і 26-га магазіна, бо апошняя сесія гарадскога Савета дэпутатаў прыняла рашэнне ліквідаваць такі гандаль.***

Што ж рабіць тым пажылым жанчынам, якія гандлем агароднінай і садавінай зарабляюць колькі тысячаў зайцоў да невялікай пенсіі? На калгасным рынку па буднях амаль няма пакупнікоў. А што рабіць тым, у каго няма свайго агарода? Ісці ў магазін? Але ж там няма такога вялікага выбару свежай агародніны і садавіны.

Можа, разумней было б у гэтым выпадку прымяніць методыку "пракладвання сцежак": адразу пачакаць, дзе пойдуць людзі, а потым класці асфальт.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

ПАРАДЫ ПАКУПНІКУ

## Мяса для "Сайгона"

***ЖДАНОВІЧЫ. Не прывучаныя да рынчных адносінаў, мы прыходзім на базар, як у магазін, і зусім не таргуемся. А дарма! Трэба, бо любы прадавец, які паважае сябе, заўсёды скіне тысячу, другую... Асабліва гэта тычыцца тых, хто гандлюе садавінай, агароднінай і мясам.***

І яшчэ некалькі парадаў для тых, хто жадае зэканоміць. Найбольш "хадавыя" прадукты - мяса, селядцы, шпроты, маянэз, памідоры, агуркі і г. д. – за некалькі дзён да святаў рэзка падвышаюцца ў цане, таму іх трэба купляць загадзя.

Што датычыцца мяса, дык яго лепш набываць напрыканцы дня, бо стомленыя "мяснікі", асабліва тыя, хто не будзе гандляваць на наступны дзень, каб не везці мяса дадому, абавязкова скінуць цану.

Каля мясных радоў можна доўга любавацца, як прафесійныя рубшчыкі тушу свінні ператвараюць у апетытныя кавалкі мяса. Ад іх выгляду ў людзей адразу з'яўляецца апетыт.

А перакусіць тут ёсць дзе. На невялічкай плошчы месціцца каля 10 міні–кафэ і піўных пунктаў. Болей за ўсё ўражвае кафэ ўсходняй і рускай кухні **"Сайгон"**, дзе працуюць в'етнамцы. Штораніцы іх шэф–повар абходзіць рынак і закупляе самае свежае мяса і зеляніну. Таму і стравы тут заўсёды вельмі смачныя, з якіх раю **"Босао з гарнірам"**.

З іншаземцаў тут гандлююць прадстаўнікі Каўказа і Сярэдняй Азіі, ёсць нават некалькі афрыканцаў. І хаця ўсе яны не тое, што беларускую, але і рускую мову амаль не ведаюць, усё ж такі схітраюцца неяк дамовіцца з пакупнікамі. "Зайцоў" лічаць вельмі спрытна, быццам бы ўсё жыццё палявалі на іх.

За дзень на рынку не ўбачыш ніводнага міліцыянера. Тым не менш, за месяц, што адпрацаваў тут, не было выпадку крадзяжу ці хуліганства. Рынак мае сваю службу бяспекі.

Рынак - гэта незабыўнае відовішча.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

***У чарзе:***

*– Вы купілі макароны? Ці добрыя яны?*

*– Так, добрыя. Я тут заўсёды свайму сабаку купляю.*

***Аб'ява па радыёкропцы:***

*– Жанчына, якая набыла свініну, вярніцеся за сваёй пячонкай.*

## Без адзення аніяк

***МАЛАДЗЕЧНА. На калгасным рынку адноўлены продаж прамысловых тавараў.***

Пасля дазволу райвыканкома зроблена разметка пад гандлёвыя палаткі. Наведвальнікам зручна – зеляніна і адзенне побач.

*Аддзел інфармацыі.*

## «Брэндзі» з Маліноўшчыны папулярнае ў кантрабандыстаў

***АСТРАВЕЦ. Мяжа з Літвой чацверты год запар стварае для мясцовых нязручнасці. Раней схадзіць да сваякоў у памежныя літоўскія пасёлкі Шумск (Шумскас) і Кену можна было напрасткі – праз лес, а цяпер на гэты крок адважваюцца адзінкі. І тыя трасуцца: можна трапіць у рукі памежнікаў.***

Затое для тых, хто мае ў характары прадпрымальніцкую жылку, мяжа стала крыніцай дадатковых грошай, сапраўднага бізнесу.

Зарабляюць грошы, у асноўным, на продажы гарэлкі. З бутэлькі маюць каля трыццаці тысяч. Другім стратэгічным прадуктам лічыцца мяса, якое тут таксама таннейшае.

Займаюцца гэтым не толькі мясцовыя, але і людзі пенсійнага ўзросту з Маладзечна, Смаргоні. Іх штодзень можна бачыць на станцыі Гудагай. Найбольш рэнтабельны тавар - "Брэндзі" вытворчасці Маліноўшчынскага завода.

- З бутэлькі,- гаворыць адна з маладзечанскіх гандлярак, - маем долар. Каб з Вільні не вяртацца з пустымі рукамі, на рынку Гарунай купляем трыкатажныя вырабы, каб затым прадаць на рынках рэгіёна.

Жыхары Астраўца, станцыі Гудагай, бліжэйшых вёсак таксама займаюцца продажам тавараў у Літве, але разам з тым знайшлі і іншы спосаб. Праз Гудагай ідуць цягнікі як на Літву, так і на Расію. Таму, карыстаючыся момантам, пасля праходжання мытнікаў і пагранічнікаў, яны прапануюць пасажырам ад піва да шампанскага. Цяпер добра ідзе гандаль грыбамі ды ягадамі.

Пасажыры разлічваюцца літамі ці расійскімі рублямі. А гэта ўжо цікавіць праваахоўныя органы, якія наладжваюць рэйды. Здараецца, што і паспяховыя. Летась, прыкладам, жанчына заплаціла за такое "хобі" 11 мільёнаў.

*Алесь СВІРЧУКОЎ.*

